ТЭЛЕПРАГРАМА НА ТЫДЗЕНЬ

**№144–145 (1957–1958)**

Субота, 7жніўня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +24...+26, уначы — +15...+17; у Брэсце ўдзень — +24...+26, уначы — +14...+16; у Гродне ўдзень — +25...+27, уначы — +15...+17; у Віцебску ўдзень — +23...+25, дождж, уначы — +15...+17, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +25...+27, уначы — +16...+18; у Магілёве ўдзень — +24...+26, уначы — +15...+17.

На астатняй тэрыторыі краіны захаваецца цёплае, без ападкаў надвор'е.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Еўрапейскі банк заклікае ўлады Беларусі распачаць рэформы

Савет дырэктараў Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР) зацвердзіў новую стратэгію супрацоўніцтва з Беларуссю. Пра гэта гаворыцца ў паведамленні банка на афіцыйным сайце ЕБРР.

Дакумент практычна не змяніўся ў параўнанні са стратэгіяй 2002 года, у адпаведнасці з якой банк фактычна згарнуў інвестыцыйныя праекты ў Беларусі. ЕБРР выказвае занепакоенасць "палітычным і эканамічным развіццём краіны ў сувязі з адсутнасцю прагрэсу, дэмакратычных і рыначных рэформаў".

Банк будзе працягваць працаваць у Беларусі ў рамках "базавага сцэнарыя", які прадугледжвае толькі маніторынг ужо дзеючых праектаў і выбарачны ўдзел у праграмах падтрымкі прыватнага сектара, у першую чаргу — малых прадпрыемстваў.

ЕБРР заклікае ўлады Беларусі знайсці магчымасць распачаць рэформы ў сферы палітыкі і эканомікі. Кіраўніцтва ЕБРР лічыць, што ў якасці такой магчымасці можна разглядаць правядзенне восенню 2004 года парламенцкіх выбараў у Беларусі.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Сітуацыяй з закрыццём Беларускай партыі працы зацікавіўся Сацінтэрн

Пра гэта БелаПАН паведаміў старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікола Статкевіч.

Нагадаем, што БСДП (НГ) — адзіная сацыял-дэмакратычная партыя СНД, якая з'яўляецца кансультатыўным членам Сацінтэрна.

Паводле слоў М.Статкевіча, у яго ўжо былі тэлефонныя перамовы з прадстаўнікамі Сацінтэрна і яны выказалі занепакоенасць ліквідацыяй БПП. "Мы таксама праінфармавалі аб тым, што здарылася, нашы партнёрскія партыі — сацыял-дэмакратычныя партыі Германіі, Швецыі, Чэхіі, Польшчы і Літвы, а таксама Партыю еўрапейскіх сацыялістаў, і яны гатовы выступіць з заявамі ў падтрымку Беларускай партыі працы", — сказаў М.Статкевіч.

## Пасольства ЗША «выказвае глыбокае расчараванне і занепакоенасць» ліквідацыяй Партыі працы

"Ліквідацыя сталай палітычнай партыі не мае прэцэдэнту ў Беларусі. Больш за тое, дзеянні па закрыцці палітычнай партыі напярэдадні парламенцкіх выбараў выклікаюць сур'ёзныя сумненні наконт таго, што гэтыя выбары будуць свабоднымі, справядлівымі і дэмакратычнымі ў адпаведнасці з нормамі АБСЕ", — гаворыцца ў заяве. Між тым, як паведамляецца ў дакуменце, ад беларускіх уладаў "ужо гучалі заявы аб намеры правесці ў Беларусі свабодныя і дэмакратычныя выбары". "Ліквідацыя БПП, аднак, прымушае засумнявацца ў гэтым намеры", — зазначаецца ў заяве.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## ЕГУ можа заняцца Савет Еўропы

Нядаўнія адміністрацыйныя ганенні, у выніку якіх у Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта ў Мінску была адклікана ліцэнзія, з'яўляюцца безумоўным парушэннем прынцыпаў свабоды адукацыі і супярэчаць традыцыям еўрапейскай вышэйшай адукацыі. З такой заявай выступіў старшыня Камітэта міністраў Савета Еўропы, міністр замежных спраў Нарвегіі Ян Петэрсэн, паведаміла прэс-служба Савета Еўропы.

"Дзеянні беларускіх улад накіраваны на ўстанаўленне яшчэ большай аднастайнасці ў галіне вышэйшай адукацыі і падаўленне свабоды думкі і навуковых даследаванняў", — падкрэсліў Я.Петэрсэн. На яго думку, такія дзеянні супярэчаць асноўным прынцыпам, замацаваным у Еўрапейскай культурнай канвенцыі Савета Еўропы, удзельнікам якой з'яўляецца і Беларусь. Акрамя таго, яны ідуць уразрэз з ідэямі аб стварэнні агульнаеўрапейскай зоны вышэйшай адукацыі, да якой, згодна з заявамі беларускага кіраўніцтва, жадала б далучыцца і Беларусь.

"Калі кіраўніцтва Беларусі не перагледзіць сваёй пазіцыі, пытанне аб сітуацыі ў галіне вышэйшай адукацыі ў краіне можа быць перададзена ў адпаведныя органы Савета Еўропы", — падсумаваў сваю заяву Ян Петэрсэн.

**Юрый ДАВІДОЎСКІ.**

## Бандарэнка выйшаў з-за кратаў

*Зміцер Бандарэнка, каардынатар незарэгістраванай грамадзянскай ініцыятывы "Хартыя'97", удзельнік незарэгістраванай Еўрапейскай кааліцыі "Свабодная Беларусь" быў затрыманы падчас акцыі апазіцыі 21 ліпеня. На наступны дзень пасля затрымання Бандарэнка быў асуджаны на 15 сутак, якія мусіў адбываць у спецпрыёмніку-размеркавальніку на вул. Акрэсціна. Апазіцыянер — адзіны з тых, хто атрымаў такі вялікі тэрмін за акцыю, прысвечаную 10-годдзю праўлення Лукашэнкі.*



*"Гэта ўжо мая пятая адседка,* — кажа Бандарэнка, — *таму ўсё звыкла, эмацыянальнага хвалявання не было. Канешне, умовы, у якіх знаходзіўся, былі даволі цяжкія: часам у камеру набівалася да 16 чалавек, на прагулкі выходзіць не дазвалялася. Было настолькі душна, што давялося распранацца да сподняга".*

Каля прыёмніка-размеркавальніка Бандарэнку сустракала група падтрымкі — сям'я, прадстаўнікі незарэгістраванай грамадзянскай ініцыятывы "Хартыя'97", актывісты незарэгістраванага руху "Зубр", жонка зніклага аператара ГРТ Святлана Завадская, дэпутат Валерый Фралоў. *"Увесь час я атрымліваў перадачы і свежыя газеты з волі, дзякуй усім, хто за мяне хваляваўся, выказваў сваю салідарнасць. Вельмі прыемна, што мяне памятаюць, падтрымліваюць"* — кажа былы вязень. На пытанне: "Можа, на пятай адседцы ўжо спыніцеся?" Бандарэнка заўважыў: *"Немагчыма змяніць сітуацыю, седзячы ў кабінетах. Я перакананы: лёс Беларусі будзе вырашацца на вуліцы. Іншага шляху няма".*

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

## З прызначэннем!

**Аляксандр Віктаравіч АГЕЕЎ** прызначаны міністрам энергетыкі Рэспублікі Беларусь,

**Пётр Міхайлавіч СЯМАШКА** — міністрам лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь,

**Дзмітрый Міхайлавіч КАЗАКОЎ** — генеральным дырэктарам адкрытага акцыянернага таварыства "Белтрансгаз".

## Курсы замежных валют

*На 7 жніўня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:*

1 долар ЗША — 2160.00 рублёў
1 еўра — 2604.53
1 расійскі рубель — 74.00
1 аўстралійскі долар — 1517.94
1 балгарскі леў — 1331.69
1 дацкая крона — 350.31
1 СДР — 3151.33
1 ісландская крона — 30.07
10 японскіх іен — 193.61
1 казахскі тэнге — 15.84
1 канадскі долар — 1637.79
1 кувейцкі дынар — 7326.75
1 кыргызскі сом — 50.83
1 латвійскі лат — 3978.63
1 літоўскі літ — 754.30
1 малдаўскі лей — 181.28
1 нарвежская крона — 312.34
1 польскі злоты — 592.95
1 сінгапурскі долар — 1253.95
10.000 турэцкіх лір — 14.66
1 украінская грыўна — 406.24
1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3944.16
1 чэшская крона — 82.41
1 шведская крона — 283.31
1 швейцарскі франк — 1692.39
1 эстонская крона — 166.46

# Два дні і дзве ночы была ў палоне «Народная воля»

Пачынаючы з 3 жніўня судовыя органы зрабілі вопіс і арыштавалі ўсю маёмасць УП "Народная воля". Дырэктара адкрытага акцыянернага таварыства "Чырвоная зорка" (друкарні) пісьмова папярэдзілі: пока ИЧУП "Народная воля" не погасит долги по решению суда..., то ОАО "Красная звезда" не имеет права по каким-либо причинам **издавать** газету "Народная воля". Беспрэцэдэнтны выпадак — судовы выканаўца ўзяў на сябе ролю і суддзі, і пракурора, і адваката. Забараніць выданне газеты можа толькі суд. І толькі ў тым выпадку, калі ў яго ёсць важкія доказы.

А тут сыр-бор разгарэўся на голым месцы. Чытачы "Народнай волі" ведаюць і пра сумнавядомыя іскі С.Атрошчанкі, і пра не менш сумнавядомы іск Я.Рыбакова. Таго самага "таварища Рыбакова", які ўжо каторы месяц праводзіць за кратамі следчага ізалятара КДБ і ў якога па словах Генеральнага пракурора В.Шэймана, ужо канфіскавана больш за 600 тысяч долараў, якімі ён завалодаў незаконным шляхам.

Мы лічым, што і спадару Атрошчанку, і спадару Рыбакову рэдакцыя нічога не павінна. Але ёсць рашэнні судоў, у адпаведнасці з якімі УП "Народная воля" павінна выплаціць ім каля 70 мільёнаў рублёў. Рэдакцыя "Народнай волі" спадзявалася, што судовыя ўлады дадуць нам магчымасць прайсці ўсе інстанцыі і толькі пасля гэтага будзе вырашацца фінансавае пытанне.

Але некаму захацелася, каб усяму свету чорнай птушкай разляцелася вестка: у Беларусі спынены выхад адзінай у краіне штодзённай недзяржаўнай газеты. Так і атрымалася — два нумары запар чытачы не атрымалі.

На выратаванне "Народнай волі" падняўся ўвесь годны свет. Я ведаю, што гэтая тэма абмяркоўвалася нават у Вене на сустрэчы вышэйшых палітычных сіл Еўропы. У рэдакцыі днём і ноччу не змаўкалі тэлефонныя званкі: людзі прапаноўвалі сваю дапамогу.

Дзякуй Вам, прыхільнікі "Народнай волі". Блакаду прарвалі, выданне газеты аднаўлена. Сённяшняя "васьміпалоска" — гэта вяртанне запазычанасці. Да канца года кампенсуем і нявыхад другога нумара.

**Жыве "Народная воля"!**
**Жыве Беларусь!**

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**галоўны рэдактар газеты "Народная воля".**



**ЧУЛІ?**

# Грэцыя не пусціць Юрыя Сівакова на Алімпіяду?



*Па інфармацыі, якую распаўсюдзіла інфармацыйнае агенцтва "Асашыэйтэд Прэс", Грэцыя забараніла ўезд на сваю тэрыторыю міністру спорту і турызму Беларусі* ***Юрыю СІВАКОВУ.*** Згодна з інфармацыяй агенцтва, падставай для гэтага паслужыла сёлетняя справаздача дакладчыка Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы Хрыстоса Пургурыдэса, у якой гаворыцца пра магчымую датычнасць Юрыя Сівакова да знікненняў вядомых дзеячаў беларускай апазіцыі. Нагадаем, што ў той час Юрый Сівакоў працаваў міністрам унутраных спраў нашай краіны.

Калі верыць інфармацыі, якая размешчана на сайце Радыё Свабода, адзін з чыноўнікаў Еўрасаюза, які пажадаў застацца ананімным, у размове з журналістам Радыё Свабода сказаў, што рашэнне грэчаскіх уладаў было ўзгоднена з прадстаўнікамі ўсіх іншых краін Еўрасаюза.

Але беларускія чыноўнікі не пацвярджаюць інфармацыю наконт таго, што Грэцыя забараніла Юрыю Сівакову ўезд на сваю тэрыторыю. Нагадаем, што на Алімпіядзе ў Грэцыі Юрый Сівакоў з'яўляецца кіраўніком беларускай спартыўнай дэлегацыі. Вось што на гэты конт сказаў журналісту "Народнай волі" прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў **Руслан Есін:** *А каменціраваць асабліва няма чаго. Хто вам сказаў, што Юрыя Сівакова не пусцяць на Алімпіяду?* **(Тут журналіст "Народнай волі зрабіў спасылку на інфармацыю, якая размешчана ў пачатку артыкула. — Аўт.)**. *Мы ніякай падобнай інфармацыі ад грэчаскіх уладаў не маем. І тыя журналісты, якія распаўсюджваюць падобную інфармацыю... Мы лічым, што гэта правакацыя. Абсалютна непрымальна выкарыстоўваць Алімпійскія гульні для нейкіх палітычных пытанняў. Хачу вам сказаць, што каманда заяўлена, акрэдытацыя на ўсю дэлегацыю атрымана, у тым ліку і на Юрыя Сівакова. Так што мы зыходзім менавіта з гэтага".*

У сваю чаргу прэс-сакратар Міністэрства спорту і турызму Беларусі **Анатоль АРЦЕМ'ЕЎ** сказаў, што ніякай панікі няма: *"Усё ідзе па плану. Ніякіх змяненняў не адбываецца. Як і планавалася, Юрый Леанідавіч адправіцца на Алімпіяду. Справа ў тым, што для таго каб наведаць Алімпійскія гульні, візы не трэба — дастаткова алімпійскай акрэдытацыі. Гэта ўстаноўлена правіламі Міжнароднага Алімпійскага камітэта".*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**
**Фото photo.bymedia.net**

# Посольство Литвы — окно Беларуси в НАТО

*Посольство Литвы в Беларуси с 1 сентября станет контактным посольством НАТО в этой стране. Об этом сообщил директор департамента политики безопасности МИД Литвы Кястутис Янкаускас. По его словам, на днях в НАТО была утверждена кандидатура Литвы стать контактным посольством альянса в Беларуси.*

Контактное посольство — неформальное представительство НАТО. Его обязанности — информировать широкую общественность соответствующих стран, СМИ, академические учреждения и сообщества, неправительственные организации о деятельности блока, его целях и задачах, а также поощрять сотрудничество соответствующего государства с НАТО.

В 21 государстве, большинство которых участвует в программе "Партнерство ради мира" и Средиземноморском диалоге, одно из посольств государств НАТО по общему соглашению на два года назначается контактным посольством всего альянса. Быть контактным посольством считается особо почетной обязанностью.

"Это решение НАТО — заслуженная оценка многолетней работы Литвы с соседями на Востоке. Литва собирается со всей серьезностью выполнять функции контактного посольства и прикладывать все усилия для информирования общественности соседней страны о роли НАТО в распространении безопасности, стабильности и духа сотрудничества. С другой стороны, такое решение НАТО подтверждает, что выдвинутое недавно Литвой, как активным лидером региона, стремление замечено союзниками и получает их оценку", — сказал К.Янкаускас.

До 31 августа функции контактного посольства альянса в Минске выполняет посольство Турции. Литва станет таким посольством на два года.

Директор Института международных отношений и политологии Вильнюсского университета Раймундас Лопата сказал, что получение такого статуса является большой дипломатической победой, поскольку его хотели бы получить многие государства, независимо от страны, в которой находится посольство. "Выраженная Литвой позиция будет отражать позицию всего альянса", — подчеркнул Р.Лопата.

Вместе с тем он отметил, что никто не может прогнозировать, как отреагирует на новый статус посольства Литвы в Минске президент Беларуси Александр Лукашенко. "Многое будет зависеть от того, с какими инициативами будет выступать Вильнюс. В любом случае, это не будет только позиция Вильнюса, и у нас будет очень солидный тыл", — сказал Р.Лопата.

**BNS.**

**ЭКСПЕРТИЗА**

# Грядет сезон политической молотьбы

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**



На селекторном совещании 5 августа официальный белорусский лидер обронил одну вроде бы малозначительную для обывателя фразу. И как бы даже не совсем по теме.

Между тем эта фраза наверняка стала для номенклатуры более сильным посылом, нежели сакраментальные призывы убрать зерно быстро и без потерь.

Глава государства сказал, что по осени кроме выборов в парламент 17 октября *"возможны и другие политические мероприятия".*

Что имеется в виду?

*"Угадайте с трех раз",* — шуткой парировал вопрос "Белорусских новостей" авторитетный минский политолог **Виталий Силицкий.**

Действительно, только ленивый не писал, что призрак бродит по Беларуси — призрак референдума о третьем сроке.

Однако аналитики уже попадали впросак, предрекая те или иные даты, когда — ну уж точно! — будет провозглашен плебисцит. Ждали этого в День освобождения 3 июля, ждали на пресс-конференции в 10-летнюю годовщину президентства...

Может, и сейчас глава государства только пускает пробный шар?

В том, что планы продления политического долголетия для Александра Лукашенко более чем актуальны, Виталий Силицкий не сомневается. И что касается прозвучавшей на селекторе лапидарной ремарки насчет "возможных политических мероприятий", то — "кому надо, все поняли", уверен эксперт *"Белорусских новостей".*

Иначе говоря, номенклатура получила четкий сигнал, что к осенней электоральной кампании надо подойти во всеоружии. Даже если и не будет в октябре референдума.

Во-первых, это смотр преданности кадров и их умения обеспечивать избирательную разнарядку.

Во-вторых, надежный, без смутьянов, парламент пригодится и потом, когда придет время "Ч".

Вместе с тем, подчеркивает Виталий Силицкий, у действующего руководителя нет форс-мажорных мотивов, дабы пороть горячку и, как он часто выражается, "кровь из носу" проводить плебисцит именно этой осенью. В запасе еще следующий, предвыборный год.

До сих пор, напоминает эксперт, тактика выжидания играла только на руку Лукашенко. Удалось более-менее утрясти споры с Москвой, договориться с ней о кредите на оплату газа.

Добавим: кроме всего прочего, белорусский лидер, пожалуй, укрепился в мысли, что Кремль не так уж непримирим к идее третьего срока. Во всяком случае — достаточно сильно боится ухода Беларуси на Запад в случае смены ее руководства.

Плюс — на Беларусь хлынул поток шальных российских нефтедолларов. Тракторы, "МАЗы", телевизоры и прочий фирменный товар бывшего сборочного цеха СССР — все это, вопреки прогнозам оппозиционных экономических оракулов, снова пошло нарасхват.

В итоге появилась возможность повысить пенсии, поднять тарифную ставку первого разряда, пообещать компенсацию сгоревших при распаде Советского Союза вкладов — короче, сделать перед электоратом ряд широких жестов.

Экономическая и политическая конъюнктура, как видим, отнюдь не самая худшая для того, чтобы садиться и писать указ о назначении референдума.

И все же!

*"Объявление референдума может дать козыри оппозиции,* — полагает Виталий Силицкий. — *Это способно усилить ее предвыборную кампанию за счет лозунга "Нет — третьему сроку!".*

Так что, по его мнению, вариант совмещения плебисцита с выборами в Палату представителей не стоит считать фатальным.

Если же этот вариант станет-таки реальностью, не окажется ли прав Зенон Пазьняк? Лидер Консервативно-христианской партии БНФ, как известно, призывает из своего эмигрантского далека к бойкоту грядущей электоральной кампании.

По его мнению, та "марионеточная" оппозиция, что втягивается в избирательные игры с заранее известным результатом, только помогает "легитимации режима".

Неужели клюнувшая на эти выборы оппозиция действительно окажется в ловушке? Ведь своим участием в мероприятии 17 октября антагонисты власти и впрямь могут придать референдуму некий демократический шарм.

Лидер Белорусской социал-демократической грамады, бывший глава парламента **Станислав Шушкевич** считает, что коллега Пазьняк в зарубежье немного оторвался от отечественных реалий.

*"Если власть готовит ловушку, то оппозиции лучше не сидеть сложа руки, а готовить антиловушку",* — говорит председатель БСДГ.

Он не питает иллюзий насчет условий грядущей электоральной кампании. По словам Шушкевича, о жестком сценарии говорят уже итоги ее первого этапа. Так, ни одного из 24 выдвинутых БСДГ претендентов не включили в окружные избиркомы.

Кроме того, говорит Станислав Шушкевич, идет планомерное давление на партии. На его Грамаде уже висит одно предупреждение Минюста. Теперь предъявлен ворох новых претензий, которые касаются формальных мелочей типа "не той" геральдики на бланках, сообщил *"Белорусским новостям"* лидер партии.

К слову, на днях одной оппозиционной структурой стало меньше: ликвидирована Белорусская партия труда. По мнению ее лидера Александра Бухвостова, это только начало. Он предрекает вслед за нынешней жатвой сезон жестокой политической молотьбы.

Да, и еще один момент — юридический.

В оппозиции стал гулять тезис, что поскольку референдум "положено назначать за три месяца", власть нарушит Конституцию, если решит-таки совместить его с выборами 17 октября.

Оказывается, надо лучше читать Конституцию. И секретарь ЦИКа Николай Лозовик отнюдь не посягнул на нее, заявив недавно, что в принципе для организации плебисцита его ведомству достаточно 45 суток.

*"Дата проведения референдума устанавливается не позднее трех месяцев со дня издания указа президента о назначении референдума",* — гласит статья 74 Основного закона. *"Не позднее"* — уловили нюанс?

Правда, экс-судья Конституционного суда **Михаил Пастухов** в интервью *"Белорусским новостям"* обратил внимание еще на один нюанс.

*"Тут есть коллизия с Избирательным кодексом,* — сказал он. — *Статья 112 этого кодекса гласит, что на референдум не могут, в частности, выноситься вопросы, связанные с избранием и освобождением президента страны".*

Другое дело, добавил эксперт, что в наших условиях такие коллизии легко разрешаются в пользу действующей власти.

И если будет принято политическое решение, то, например, за нужным толкованием со стороны Конституционного суда дело не станет, убежден Михаил Пастухов.

Так или иначе, по осени нас ждет сезон ударной политической молотьбы.

*"Белорусские новости".*

# ЧТО ПРОИСХОДИТ В МИРЕ

## Саакашвили избавится от российских войск в Грузии за несколько лет



Президент Грузии Михаил Саакашвили заявил, что через 3-4 года, когда экономика страны восстановится и абхазскую и южноосетинскую проблемы будет легко разрешить, ни одного российского солдата там не останется. На брифинге после встречи с помощником президента США по вопросам национальной безопасности Кондолиззой Райс в Вашингтоне грузинский президент также сообщил, что не намерен обращать внимание на жесткие заявления из России. "Все эти заявления мы впустили в одно ухо и выпустим через другое. Грузия будет делать свое дело, вернется Абхазия, а про Цхинвальский регион я вообще не говорю, настолько для нас это просто", — пояснил президент Грузии. "Горячие головы в Москве хотят вовлечь Грузию в вооруженный конфликт, но мы этого не допустим. Нам сейчас нужна не война, а развитие экономики, повышение боеспособности, инвестиции. Наши враги знают, что если всего этого мы добьемся, то Грузия перестанет быть легкой добычей", — сказал Саакашвили.

Грузинский лидер в очередной раз призвал россиян воздержаться от поездок в Абхазию. По его словам, если российские туристы все же захотят отправиться туда, то они должны понимать, что вторгаются на территорию иностранного государства. "Абхазия на сегодняшний день не место для отдыха. Это — зона войны, откуда выгнали 300 тысяч грузин. Там туристам делать нечего", — сказал Саакашвили.

Напомним, что накануне президент Грузии отдал приказ открывать огонь и топить все суда, которые попытаются без санкции из Тбилиси подойти к побережью Абхазии. "Так же как грузинские катера без разрешения России не могут появляться в ее территориальных водах, аналогично российские катера без нашего разрешения не могут появляться у побережья Абхазии", — объяснил Саакашвили.

## В Украине проверили доходы кандидатов в президенты

Государственная налоговая администрация Украины (ГНАУ) проверила на достоверность 22 декларации кандидатов в президенты. По словам заместителя председателя ГНАУ Сергея Лекаря, в 11 из них ГНАУ были выявлены "ошибки", которые касались недостоверного отображения доходов кандидатов и их семей, недвижимого имущества, корпоративных прав кандидатов, расходов и затрат. При этом Лекарь отказался назвать фамилии кандидатов, декларации которых были нечестно заполнены, ссылаясь на то, что, в соответствии с законом, данную информацию имеет право озвучить только Центральная избирательная комиссия.

Зампредседателя ГНАУ отметил, что в этом году проверка деклараций кандидатов проводилась на более высоком уровне, чем на выборах президента 1999 года. "Мы усовершенствовали организацию работы налоговой службы. Стали использовать больше информационных баз, скоординировали работу подразделений всех министерств и ведомств", — сказал он.

Комментируя "уникальные" декларации, например, как в случае с кандидатом Василием Волгой, годовой доход которого составил 3110 гривен, в то время как по договорам добровольного страхования им было уплачено 18.137 гривен, или как с декларацией Григория Черныша, годовой доход которого составил 292 гривны, но при этом он имеет автомобиль "Nissan Patrol" с объемом двигателя 5000 куб. см., Лекарь отметил, что "многие декларации вызывали в налоговой ряд вопросов".

## Эмиссар Масхадова получил политическое убежище в США

Министр иностранных дел Ичкерии Ильяс Ахмадов официально получил политическое убежище в США. Об этом сообщили в Американском комитете за мир в Чечне, сопредседателями которого являются бывший советник президента США по национальной безопасности Збигнев Бжезинский и бывший госсекретарь США Александр Хейг. По данным комитета, американские власти отозвали апелляцию на решение иммиграционного суда в Бостоне, который в апреле этого года распорядился предоставить Ахмадову убежище. В комитете также сообщили, что Ахмадов получил назначение в американском неправительственном фонде National Endowment for Democracy и планирует переехать в Вашингтон, где будет жить и работать.

Российские правоохранительные органы утверждают, что Ахмадов связан с лидером чеченских сепаратистов Асланом Масхадовым и полевым командиром Шамилем Басаевым. В конце 2002 года была выдана санкция на арест Ахмадова по обвинению в подготовке и организации вооруженного нападения на Дагестан, совершенного в сентябре 1999 года. В августе 2003 года российское бюро Интерпола объявило Ахмадова в международный розыск.

Министерство иностранных дел РФ просило американскую сторону учесть позицию России при рассмотрении прошения Ахмадова о предоставлении политического убежища. "Наше отношение к этому пособнику террористов американской стороне известно", — заявил официальный представитель МИДа Александр Яковенко в декабре прошлого года.

## Население Литвы одобряет расширение Евросоюза

Дальнейшее расширение ЕС поддерживают почти две трети жителей Литвы, которые наиболее благоприятно относятся к принятию в ЕС Украины в ближайшее время.

Это показал опрос, проведенный по заказу МИД Литвы центром социологических и рыночных исследований.

За дальнейшее расширение ЕС высказались 62,6 процента опрошенных, против — 12,6 процента, не было определенного мнения у 24,8 процента респондентов, сообщил МИД.

В самой большой степени поддерживают расширение ЕС респонденты в возрасте 18—29 лет (67,3%), 50—59 лет (66,7%) и 60—69 лет (68,2%), а также школьники и студенты (76,6%).

Отрицательное мнение о дальнейшем расширении ЕС высказали преимущественно респонденты в возрасте 40—49 лет (14,9%), респонденты с высшим образованием (18,3%), а также те, у кого доходы на одного члена семьи превышают 501 лит (19,9%).

Как показал опрос, больше всего респондентов поддерживают принятие в ЕС в ближайшее время Украины, Турции, Хорватии, Молдавии и Грузии, тогда как мнения относительно вступления в ЕС Беларуси, Армении и Азербайджана разнятся.

За вступление Украины в ЕС в ближайшее время высказались 36,9%, Турции — 31,8%, Хорватии — 31,7%, Молдавии — 24%, Грузии — 20,3 процента опрошенных.

## Программист «Аль-Кайеды» рассказал, как террористы используют Интернет

Задержанный в Пакистане программист "Аль-Кайеды" рассказал, как террористы используют Интернет. По сведениям источника в правительстве США, 25-летний специалист по компьютерам Мухаммад Наим Нур-Хан, задержанный в Пакистане по подозрению в связях с террористами, рассказал следователям, что для связи члены "Аль-Кайеды" использовали веб-сайты и электронную почту в Турции, Нигерии и областях, занятых пакистанскими племенами. Каждый адрес электронной почты использовался только один или два раза. Если информация, о которой шла речь, была очень опасна, то адрес использовался только один раз. Часто для доставки компьютерных дисков с сообщениями использовались курьеры. После того как сообщения были прочитаны, файлы уничтожались.

## Судан пригрозил ООН джихадом



В Судане расценили принятую Совбезом ООН резолюцию по урегулированию кризиса в провинции Дорфур как объявление стране войны. Об этом заявил в интервью газете "al-Anbaa" генерал Мухаммед Башир Сулейман. Он также сказал, что армия Судана готова отразить "и на земле, и в воздухе" любое вторжение иностранных вооруженных сил на территорию страны. "Мы объявим врагам джихад", — резюмировал генерал. По мнению генерала Сулеймана, 30-дневный срок, который Совбез ООН дал Судану на разоружение группировок арабских боевиков, в том числе наиболее известной, "Джанджавид", выбран неслучайно: это оптимальное время для подготовки к войне. Он призвал суданцев готовиться к "интервенции": "Мы не будем встречать американцев с цветами и флагами".

Вооруженный конфликт в Дарфуре, в котором участвуют повстанцы, принадлежащие к этническому меньшинству, и суданская армия, длится уже 17 месяцев. За это время погибло более 50 тысяч мирных жителей. Около 1,2 миллиона беженцев покинули свои дома, однако остаются в стране. Приблизительно 120 тысяч человек отправились в Чад. Каждый день на границу прибывает от 30 до 100 беженцев. Вынужденные переселенцы страдают от голода. Гуманитарная помощь ООН покрывает их нужды только на треть.

ЛЮБОПЫТНО

## Арнольда Шварценеггера разоружили

Достигнуто соглашение между губернатором штата Калифорния Арнольдом Шварценеггером и фирмой Ohio Discount Merchandise, которая производила кукол-болванчиков с его внешностью. Компания Ohio Discount Merchandise, возглавляемая братьями Тоддом и Тоби Босли, начала выпускать кукольных Шварценеггеров в марте 2004 года. Кукла-болванчик изображала бывшего актера в деловом костюме и с автоматом АК-47 в руках. В апреле 2004 года юридическая фирма Lavely & Singer, представляющая интересы Шварценеггера, предъявила братьям Босли иск, в котором потребовала от них немедленно прекратить производство таких кукол, изъять их из всех магазинов и выплатить губернатору Калифорнии соответствующее вознаграждение за использование его образа.

Согласно новому соглашению, Ohio Discount Merchandise может продолжить производство кукол актера и губернатора, но уже без оружия в руках. В свою очередь, компания-производитель согласилась жертвовать часть прибыли от продаж куклы благотворительному фонду Арнольда Шварценеггера.

"Мы довольны таким разрешением ситуации и с нетерпением ожидаем выпуска обновленной куклы-болванчика", — заявил Тодд Босли, совладелец Ohio Discount Merchandise. Мартин Сингер, адвокат Шварценеггера, сообщил, что губернатор также рад прекращению неправомочного использования его изображения и вполне удовлетворен достигнутым соглашением.

## Прогулка тигра по Нью-Йорку привела к крупной автоаварии

Из цирка в Нью-Йорке сбежал тигр. Перед тем как его удалось поймать, он стал причиной крупного ДТП, в результате которого пострадали пять человек, в том числе ребенок. 7-летний белый тигр по кличке Аполло сбежал из флоридского цирка-шапито Cole Bros. Circus, прибывшего в Нью-Йорк на гастроли. По словам представителя администрации Форест-парка, на территории которого разместился цирк, тигр сбежал, когда его перемещали из маленькой клетки в большую. На какое-то время между клетками образовался достаточно широкий зазор, и 200-килограммовый тигр вырвался на свободу.

Аполло спокойно прогуливался по парку, не проявляя агрессии по отношению к ньюйоркцам. Однако, когда он вышел на улицу Джеки Робинсон Паркуэй, там произошло крупное ДТП с участием нескольких автомашин. При этом пять человек получили легкие повреждения. Поймать тигра удалось в районе Куинз. Аполло улегся на улице, и шестеро полицейских окружили его. Вскоре к месту происшествия прибыл укротитель из цирка, который и загнал тигра обратно в клетку.

# Фотовзгляд



*После совершенных нападений значительно усилена охрана христианских церквей в Багдаде.*



*Членов национал-большевистской партии забросали землей на акции протеста в центре Москвы.*



*Больше половины китайцев, живущих в сельской местности, никогда в жизни не чистили зубы.*

НАРОДНАМУ ПІСЬМЕННІКУ ЯНКУ БРЫЛЮ — 87 ГОД!

# Ці-шы-ня...

### Менавіта так — па складах-акцэнтах напісаў гэтае слова Янка Брыль, нібыта здымаючы капялюш перад дзівосным момантам у жыцці прыроды і чалавечай душы



...Толькі што прайшоў ліпеньскі дождж, *"і засталася такая ўрачыстая ціш, што кветкі цыніі — гляджу, прысеўшы на ганку, — стаяць на сваіх высокіх сцяблінках так непарушна, што самому хочацца застыць, суцішыцца ў пытанні: а што гэта такое — ці-шы-ня?"*

Гартаеш нетаропка, старонку за старонкай, апошнюю брылёўскую кнігу **"БЛАКІТНЫ ЗНІЧ"**, і разам з глыбокім і мудрым творцам сам сабе задаеш пытанні аб сэнсе і сутнасці найгалоўных каштоўнасцяў быцця, дзе ўзвышанае і зямное знітаваны ў адно непарушнае цэлае. І п'еш спатольную чысціню і свежасць кожнага слова, што адкрывае дзверы ў найтанчэйшы духоўны свет непараўнальнага Мастака, які не стамляецца сам здзіўляцца адкрыццям дагэтуль нязведанага ў гэтым старым-старым, старым свеце — а значыць, здзіўляць і радаваць чытача.

Такія яго "Блакітны зніч", кніга, выпушчаная ў гэтым годзе мінскім выдавецтвам "Про Хрысто" неблагім па нашым часе тыражом у 3000 асобнікаў, і ўсё, што выйшла з-пад пяра народнага пісьменніка Беларусі больш чым за 60 год багатай плённай працы на абсягах нацыянальнай літаратуры: перакладзеныя на многія мовы свету шматлікія кнігі прозы, у ліку якіх самабытнейшыя аповесці **"Ніжнія Байдуны"** (1975), **"Золак, убачаны здалёк"** (1979), раман **"Птушкі і гнёзды"** (1963), кнігі лірыка-філасофскіх мініяцюр, эсэ і апавяданняў **"Жменя сонечных промняў"** (1965), **"Вітраж"** (1972), **"Сёння і памяць"** (1985), **"Пішу як жыву"** (1994), **"Дзе скарб ваш"** (1997) і іншыя творы, якія немагчыма не любіць. Бо непараўнальнасць, непаўторнасць яго народжанага ў глыбіні душы слова, якое праменіцца дзівосным і ціхім святлом, саткана — і, дзякуй Богу, тчэцца, тчэцца і тчэцца — не з нейкіх эфектных прыдумак, а з праўды паўсядзённага — асабістага і навакольнага — жыцця з яго спляценнем трагічнага і смешнага, радаснага і пакутнага.

Прыкмечаныя трапным вокам і прапушчаныя праз магічны крышталь таленту звычайныя, будзённыя дробязі, спыненыя памяццю імгненні, назіранні і ўражанні, часцей за ўсё нязначныя для затурканага тлумнай мітуснёй чалавека, раптам успыхваюць россыпам залацінак красы і мудрасці, вырастаюць у пераканаўчы мастацка-філасофскі вобраз часу, пераліваюцца ў гранічна-шчырую споведзь шмат перажыўшага і зведаўшага сэрца. Нездарма ж Іван Антонавіч, маючы на ўвазе простыя, але фундаментальныя рэаліі жыцця, згадвае прызнанне вялікай рускай паэткі Ганны Ахматавай: *"Когда б вы знали, из какого сора растут стихи..."*. Нездарма з такім трапяткім пачуццём замірае ён у момант цішыні, якой нам так нестае ў віхуры сённяшніх шалёных рытмаў.

У цішыні зараджаецца вялікае — думка, слова, справа, азарэнне. І характэрная для пісьменніка знешняя сцішанасць дару пры важкай сэнсавай насычанасці сказанага літаральна заварожвае ў ягоных творах. Вось хаця б некалькі фрагментаў з "Блакітнага зніча".

* * *

*"Начное бяссоннае бачанне — аднаго за адным. Вялікае, гожае поле свежай раллі. Старонка таннай газеціны. Некралог памерам — запалкавы карабок. Скупымі, халоднымі словамі загматана жыццё аратага, які — я ведаю — любіў сваю святую справу. І з конямі, і з трактарам. Зноў вялікае, гожае поле... Ужо даўно без яго..."*

***

*Каторую ўжо раніцу з крутога павароту дарогі бачу вялікі барвяны шчыт нізкага сонца — праз рэдка-лісцяную крону старое ліпы. Летась асірацелай, калі буран абярнуў з яе таксама старую, груваcткую ад бясконцых вясновых рамонтаў буслянку. І не пустую, а з нялётнай моладдзю, якую мы, суседзі, дружна шкадавалі, асабліва дзеці".*

І трухканне божай кароўкі па ганку, і даўняя бядота дзяўчыны-аднавяскоўкі Віліты, якой ужо няма на свеце, і ўзноўленыя дзеля гістарычнай праўды прыгоды маладога пасланца партызанскага атрада Янкі Брыля на знакаміты партызанскі парад у Мінску летам 1944-га, і ўсё, такое важнае для пісьменніка, робіцца важным і цікавым для ўдзячнага чытача. Бо, кажучы словамі творцы, *"ніколі гэта не позна — пазнаваць сапраўднае. Хоць і лепш было б пабагацець раней".*

*А вось і самы шчымлівы, хвалюючы, пяшчотны матыў кнігі: "Над саснова-бярозавым лесам на ўзгорках, над неаглядным шматлюддзем помнікаў у шырокай, з лагодным спадам даліне далекаватых прыгарадных могілкаў ужо не **ёй** спявае сонечны, з белымі хмаркамі верасnёвы блакіт.*

*Апошняе месца на роднай зямлі я аплаціў на дваіх рублямі, загадзя сабранымі з дзвюх ветэранскіх пенсіяў ды з маіх, жабрацкіх сёння, літаратурных заробкаў, так увайшоўшы ў незалежна-свабодны спакой на душы ад таго, што вось і ведаю, куды і да каго пайду. А ўжо **калі** ды **як** — нікому ж такога ведаць не дадзена..."*

Гэта — пра невымерную і незваротную страту: хутка год, як не стала любай жонкі, найадданейшай сябрыны і дарадцы Івана Антонавіча, адукаванейшай і найгаспадарлівай, ды што там — проста цудоўнай жанчыны — Ніны Міхайлаўны Брыль. На яе магілу пад Мінскам леглі прывезеныя з наднёманскага лецішча прыгожыя астры, якія садзіла яна ж сама, вечна нястомная руплівіца.

У пісьмах, датаваных з восені 44-га і змешчаных у раздзеле "Нашы разлукі", з ласкі пісьменніка мы дакраналіся да святога, глыбока асабістага, што не знікала ў бязлітасным патоку часу і ўзнімае чалавека над безданню выпрабаванняў, скрухі і нават самой смерці. Каханне — адно на ўсё жыццё, непрыдуманае і непрыхарошанае. Каханне, што не патрабуе спляцення прыгожых слоў і ціха, але непагасна свеціцца блакітным знічам у простых аповедах пра простыя, празаічныя рэчы (іх больш чым хапала ў той неўладкаваны, цяжкі пасляваенны час, які разлучаў закаханых). І толькі звароты мужа і жонкі адно да аднаго — **"Ты, Табе, Цябе"** — нязменна з вялікай літары — гавораць аб не сказаным тады ў словах.

Але яны міжволі прыходзяць зараз, у цішыні душэўнай самоты чалавека, які толькі што сустрэў свой 87-ы дзень народзінаў без дарагой Ніны Міхайлаўны. *"...У сціпленькай красе блакітна ўрачыстых знічаў каля букета новых кветак у душы ажывала, жыло адчуванне высокага, чыстага, вечнага неба сусвету над змрочна прыціснутай хмарамі грэшнай, любай зямлёю"...*

Не, што ні кажыце, а як бы хто ні пнуўся — ніколі і нікому не абвергнуць сказанае аднойчы Янкам Брылем перад сябрамі па пяры: *"У нас ёсць літаратура. У нас яна будзе — вялікая беларуская літаратура на нашай багатай ды прыгожай, несмяротнай мове".*

Новага Вам творчага плёну, дарагі Іван Антонавіч, добрага здароўя і доўгіх год на радасць нам усім, хто лічыць за гонар і шчасце жыць з Вамі ў адным часе, і хто прыйдзе за намі.

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

# Дареным коням пересчитали зубы

*Белый дом отчитался за подарки, полученные в 2003 году от зарубежных обожателей. В списке и очень дорогие, и очень странные подношения. В год войны с Ираком Бушу и его окружению дарили много золота и сырое мясо. Российский президент сделал не самый дорогой, но, наверное, самый культурный подарок.*

Реестр подарков Белому дому за 2003 год обнародовал госдепартамент США. Документ сам по себе очень интересный. Любопытен уже сам список дарителей. Это главным образом союзники США по антитеррористической коалиции. Лидеры Франции и Германии в этом году Буша, понятное дело, не одаривали. Это с лихвой компенсировал наследный принц Саудовской Аравии Абдалла бен Абдель Азиз. Он буквально озолотил Белый дом. Первая леди получила от него гарнитур из драгоценных камней стоимостью в 95,5 тысячи долларов — бриллиантовые и сапфировые серьги, браслеты и ожерелья. В гарнитуре было так много предметов, что агентство "France-Presse" даже решило, что часть украшений предназначалась дочерям президента, Дженне и Барбаре. Бушу кронпринц презентовал каминные часы, отделанные серебром и золотом. Они оценены в 8,5 тысячи долларов. Примечательно, что ключевые чиновники кабинета Буша тоже получили подарки от кронпринца. Советник Буша по нацбезопасности Кондолиза Райс получила от саудовской королевской семьи скульптуру лошади стоимостью 3 тысячи долларов. Вкладывал ли принц какой-то смысл в свой подарок, сказать трудно. Но во многих странах лошадь считается символом энергии, жизненной силы, красоты и власти.

Госсекретарь США Колин Пауэлл получил от принца Абдаллы тоже символический, хотя и скромный по сравнению с бушевскими подарок. Ему презентовали нож для резки бумаги стоимостью 1,5 тысячи долларов.

Щедрым дарителем оказался еще один союзник США по борьбе с терроризмом — итальянский премьер Сильвио Берлускони. Общая стоимость его подарков Белому дому превысила за 2003 год 35 тысяч долларов. Драгоценности и памятные сувениры получили все члены семьи Буша, руководитель аппарата сотрудников Белого дома Эндрю Кард и глава Пентагона Дональд Рамсфельд. Самый же необычный подарок хозяевам Белого дома преподнес президент Аргентины Нестор Киршнер. Его страна переживает нелегкие времена, бюджет явно не предусматривает щедрых презентов иностранным лидерам. Очевидно, поэтому Киршнер привез в США, что называется, натуральный продукт. Белый дом получил от него 150 кг ягнятины.

Мясо предназначалось непосредственно Бушам, но обозреватели сомневаются, что первая чета США питалась этим мясом. Дело в том, что все подарки, полученные Белым домом (мясо, как видно, не исключение), передаются в собственность правительства. Вероятнее всего, аргентинскую ягнятину передали каким-нибудь благотворительным организациям.

На фоне щедрых дарителей, кстати, выгодно выделяется российский президент Владимир Путин. Он нашел способ продемонстрировать, что в России в цене духовные ценности. Его презент Белому дому — коллекция оригинальных акварелей с портретами всех 43 президентов США. Коллекция заключена в книгу красного бархата и украшена драгоценными камнями. Стоимость подарка российского президента, конечно же, не сравнится с саудовскими подношениями. Всего-то 45 тысяч долларов.

**Gazeta.ru**

## Еўрасаюз абараняе ЕГУ

Еўрапейскі Саюз сур'ёзна занепакоены з нагоды "жорсткага ўдару", які беларускія ўлады нанеслі па Еўрапейскім гуманітарным універсітэце (ЕГУ) — *"увасабленні прынцыпаў свабоды адукацыі"* і *"цудоўным прыкладзе адданасці сапраўды еўрапейскім каштоўнасцям у пытаннях выкладання і даследчых праграмах".* З такой заявай ад імя Еўрапейскага Саюза выступілі Нідэрланды, якія зараз старшынствуюць у гэтай арганізацыі.

У дакуменце асуджаюцца факты ціску беларускіх уладаў як на ЕГУ, так і асабіста на рэктара універсітэта Анатоля Міхайлава. Нядаўнія крокі, зробленыя ў дачыненні да ЕГУ, расцэньваюцца як "частка стратэгічнага плана, накіраванага на выкараненне патэнцыяльных крыніц іншадумства".

Краіны ЕС лічаць, што такія крокі выкліканы *"палітычнымі меркаваннямі"* і імкненнем *"задушыць грамадзянскую супольнасць падчас падрыхтоўкі да кастрычніцкіх парламенцкіх выбараў".*

У заяве ЕС адзначаецца таксама, што меры, якія прымаюцца беларускімі ўладамі ў дачыненні да ЕГУ, *"ляжаць у жорсткай супярэчнасці з дэклараванымі намерамі Беларусі"* працаваць над паляпшэннем адносінаў з Еўрасаюзам. ЕС папярэджвае Беларусь аб магчымых негатыўных наступствах такой палітыкі і *"настойліва заклікае беларускія ўлады да перагляду сваёй пазіцыі".*

**Юрый ДАВІДОЎСКІ.**

## У Нарвегію — з песняй!

Да 16 жніўня прымаюцца заяўкі для ўдзелу ў Нацыянальным дзіцячым конкурсе "Песня для Еўрабачання", які праводзіцца ў мэтах адбору песні і выканаўцы для прадстаўлення Беларусі на дзіцячым конкурсе песні Еўрабачання ў Нарвегіі (горад Лілехамер) 20 лістапада гэтага года.

Арганізатарамі конкурсу з'яўляюцца Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія і Міністэрства культуры краіны.

Песня, якая бярэ ўдзел у конкурсе, павінна складацца з вершаў на адной з дзяржаўных моў Рэспублікі Беларусь і музыкі, якія не павінны быць рэалізаваныя камерцыйна. Выкананне кампазіцыі павінна доўжыцца не больш за 2 хвіліны 45 секунд і не менш за 2 хвіліны 30 секунд. Аўтар песні павінен узяць удзел у яе выкананні на сцэне ў якасці вакаліста ці інструменталіста.

Да ўдзелу ў конкурсе дапускаюцца выканаўцы, якім на момант падвядзення вынікаў конкурсу павінна быць не менш за 8 і не больш за 15 гадоў, якія з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь або жывуць у краіне не менш за два з паловай гады.

*Заяўку трэба накіраваць каштоўнай бандэроллю на адрас: 220807, Мінск, вул. Макаёнка, 9, Белтэлерадыёкампанія, з паметкай "На конкурс "Песня для Еўрабачання". Апошні дзень прыёму заявак — 16 жніўня.*

17—20 жніўня прафесійнае журы падвядзе вынікі спаборніцтва і адбярэ не больш за 10 песень, якія будуць выкананы на гала-канцэрце конкурсу "Сузор'е надзей". Па выніках тэлефоннага галасавання і галасавання журы вызначыцца песня-пераможца. Яе выканаўца возьме ўдзел у дзіцячым конкурсе песні Еўрабачання ў Нарвегіі.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

Народная Воля

7 ЖНІЎНЯ 2004 г.

# Я милую узнаю по походке

*Определить характер малознакомого человека — дело непростое, но очень интересное. Психологи могут многое рассказать об особенностях человеческой психики по почерку, манере говорить и даже по... подметке обуви.*

"Людмила Прокофьевна! Ну как вы ходите: вся отклячится, скукожится, как старый рваный башмак, и чешет на работу, будто сваи заколачивает!" — так охарактеризовала походку своей начальницы героиня Лии Ахеджаковой в кинофильме "Служебный роман". А заодно и показала, как нужно правильно ходить, — поднять голову, гордо расправить плечи — и вперед! Однако походку, как утверждают психологи, изменить невозможно — разве что на некоторое время. Не секрет, что каждый человек имеет свою характерную манеру двигаться, выработанную с детских лет и ставшую его своеобразной визитной карточкой. Оказывается, походка может быть обязательной и произвольной, почти как программы выступлений у фигуристов! Обычно обязательная часть "исполняется", когда хочется произвести впечатление на окружающих, понравиться или просто вспоминается мамино правило: "Не сутулься! Ступай гордо!" Другое дело — произвольная часть. Именно в ней, по мнению психологов, и раскрываются особенности естественной походки, отражающие индивидуальные черты характера. Одни семенят, другие идут семимильными шагами, как Кот в сапогах, третьи гордо "несут" себя, высоко подняв голову, четвертые "тянут носок", как будто исполняют цыганочку с выходом, а пятые "летят", высекая каблуками искры из асфальта. С изменением походки (даже на небольшой промежуток времени) может меняться и характер человека. Швейцарские психологи провели интересный эксперимент. Его участникам было предложено в течение часа копировать походку людей, которые должны были двигаться впереди (на расстоянии 10 м от "копирующих") по аллеям парка. По окончании эксперимента "копирующие" поделились своими ощущениями. Большинство участников признались, что такого сильного дискомфорта они никогда не испытывали — если первые десять минут подражание казалось забавным, то за оставшееся время это занятие превратилось в настоящее мучение. Копирующим казалось, что они перестали быть самими собой и превратились в других людей. Один из участников просто "сошел с дистанции" через полчаса после начала опыта и "осел" в близлежащем ресторане. Позже он признался, что, "копируя" походку другого человека, он вдруг понял, что перестал бояться собак (при виде этих животных он с детства испытывал панический страх). А еще ему очень захотелось выпить кружку темного пива, которое никогда ему не нравилось. Самое интересное, что человек, чью походку он изображал, держал дома целую псарню, а темное пиво называл "райским напитком".

Конечно, особенности походки отражаются на том, как снашивается обувь. Швейцарские психологи даже разработали оригинальную методику определения психологического портрета человека по его подметке и назвали ее скарпологией. К примеру, если подошва стерта на носке, а каблук с внешнего края, то владелец такой обуви не любит напрягать себя обязательствами, неамбициозен, влюбчив, забывчив и, видимо, по этой причине поздно вступает в брак. Подошва, потертая посредине, и каблук, изношенный с внутреннего края, говорят о том, что их хозяин легко поддается чужому влиянию, склонен к компромиссу, трудолюбив, обожает природу и с трудом расстается с деньгами. Если на подметке под большим пальцем вот-вот образуется дыра, это верный признак решительного характера. Для таких людей не существует непреодолимых преград на пути к цели, они благородны, любят животных, не верят в гороскопы, никогда не занимаются благотворительностью и редко дают деньги в долг. Если подошва и каблук стерты одинаково, то владелец такой обуви — человек энергичный и деятельный, отзывчивый и великодушный, способный достичь многого на службе благодаря своему трудолюбию, точности и уравновешенности. Подметка, сношенная с наружного края, — показатель прямого и решительного характера, хорошего вкуса, практичности и аккуратности, доходящей до занудства. А вот потертость на внутреннем крае подошвы характерна для людей слабовольных и необщительных, но отличающихся развитым умом. Скарпологи уверяют, что новая методика намного точнее хиромантии и к тому же проста в освоении в отличие от графологической экспертизы или дедуктивного метода Шерлока Холмса.

**Татьяна ЧУХРОВА.**



*Дыра под большим пальцем — верный признак решительного характера.*

*Если подошва стерта на носке, а каблук с внешнего края, то владелец такой обуви влюбчив, забывчив и неамбициозен.*

АЛІМПІЯДА-2004

## Чатырохногія жыхары алімпійскай вёскі

Арганізатары Алімпіяды аб'явілі сапраўдную вайну бяздомным сабакам, пасля таго як гэтыя жывёлы знайшлі прытулак у алімпійскай вёсцы. Першымі на чатырохногіх суседзяў паскардзіліся прадстаўнікі дэлегацыі Вялікабрытаніі.

Арганізатары Алімпійскіх гульняў звярнуліся за дапамогай да мясцовых уладаў, а таксама да прадстаўнікоў служб па абароне жывёл. Па словах прэс-аташэ арганізацыйнага камітэта Захаратаса, жывёл вылечаць, кастрыруюць і адпусцяць на свабоду па заканчэнні Алімпіяды.

Зараз па афінскіх вуліцах гуляюць тысячы бяздомных сабак, і ўлады горада былі вымушаны стварыць спецыяльную камісію па адлове і лячэнні жывёл. Дарэчы, гэтая праблема набывае маштабы стыхійнага бедства. Арганізатары Алімпіяды спадзяваліся на тое, што спартсмены не сутыкнуцца з гэтай праблемай, аднак сабакі змаглі трапіць на тэрыторыю алімпійскай вёскі, нягледзячы на тое, што гэты аб'ект ахоўваюць сотні паліцэйскіх.

## Ахова перастаралася...

Улады Афін распачалі расследаванне ў адносінах да супрацоўнікаў службы бяспекі, якія збілі двух мексіканскіх тэлежурналістаў. Прадстаўнікі СМІ спрабавалі зняць афінскі порт, дзе будуць стаяць як мінімум восем караблёў-гатэляў. Дарэчы, на адным з такіх караблёў падчас Алімпіяды будуць жыць і прадстаўнікі беларускай дэлегацыі.

Арганізацыйны камітэт ужо прынёс свае прабачэнні за гэты інцыдэнт.

Між іншым, афінскія ўлады даволі сур'ёзна паставіліся да гарантавання бяспекі, у тым ліку і ў гарадскім порце. Да слова, у Афінах знаходзяцца мінныя тральшчыкі і вайсковыя караблі. Забеспячэнне спакою падчас Алімпіяды абышлося грэкам у 1,2 мільярда еўра.

## Алімпійская паходня працягвае сваё падарожжа

Эстафета алімпійскага агню, які будзе запалены на галоўным алімпійскім стадыёне, працягвае сваё падарожжа па Грэцыі. Пакінуўшы астравы Эгейскага мора, алімпійская паходня дасягнула мацерыковай часткі краіны. На сённяшні дзень алімпійскі агонь пераадолеў звыш 146 кіламетраў, яго пранеслі дзве сотні чалавек.

## Большая частка квіткоў яшчэ не рэалізавана...

Большая частка квіткоў на алімпійскія спаборніцтвы дагэтуль не рэалізавана, пра гэта паведаміў кіраўнік прэс-службы аргкамітэта "Афіны-2004" Міхаліс Захаратас.

"З 5,2 мільёна квіткоў прададзена толькі 2,2 мільёна", — сказаў ён. Паводле яго слоў, нягледзячы на тое, што большая частка квіткоў яшчэ не распрададзена, ужо рэалізаваны 87% квіткоў на паўфінальныя і фінальныя спаборніцтвы Алімпіяды.

Падрыхтаваў **Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ШАШКІ

## Геаметрычная ідэя

Класіфікацыйны конкурс-15 працягваем пятым заданнем — міні-канцоўкай з геаметрычнай ідэяй майстра спорту з Наваполацка Пятра Шклудава на яго прызы:

**Белыя:** a3, f2, f4, h2, h4 (5).

**Чорныя:** a5, e7, f6, f8, g7 (5).

Выйгрыш (два ачкі). Калі ёсць натхненне, паспрабуйце камбінацыйную задумку аўтара паказаць у больш яркіх фарбах.

Удзельнікі нашых папярэдніх конкурсаў могуць пачаць з гэтага задання.

Тэрмін для адказаў — традыцыйныя два тыдні. Чакаем іх па адрасе: **220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а, рэдакцыя газеты "Народная воля", "Шашкі".**

**Супаставім рашэнні**

Праверце, калі ласка, рашэнні пазіцый, змешчаных 17 чэрвеня.

**"Дамка супраць простых".** Заданне № 12 класіфікацыйнага конкурсу-12 (Д.Камчыцкі): a7 (f6 A) d2 (g5) h4 (b6) h8 (g1) f6 (g3) e3x. A (d6) ef2 (e3 B) g1 (c5) a7 (e3) g1, f2x. B (b6) h6, e3x. "Дванаццаты конкурс быў для мяне нялёгкім выпрабаваннем, — піша Аляксандр Янчук — наш пастаянны падпісчык з Камянца. — Кампазіцыі Д.Камчыцкага неардынарныя, шматпланавыя, багатыя па змесце, цікавыя складанасцю рашэння".

**"Кампазітару — 40"** (А.Кагоцька): **№ 1** — c7, c7, c3x; **№ 2** — b2, e3, c5, g3, h8x; **№ 3** — g7, d6, f8, c3, g5, b4x. Але магчыма 5.f:e1x. Убачылі В.Масквіч, А.Ляхоўскі, У.Сапяжынскі, А.Перавознікаў, М.Гельман, М.Гардзіеўскі, А.Янчук, Д.Камчыцкі, П.Чэрнак, У.Мазанік, В.Касцян, Г.Логвінаў, В.Грабенка; **№ 4** — b4, f4, f8, f2x; **№ 5** — h8, f6, g3x. "Разнастайныя і сімпатычныя мініяцюры, — заканчвае свой ліст А.Янчук. — Фантазія, дасціпнасць і вынаходлівасць дазваляюць А.Кагоцьку ствараць прыгожыя творы нават пры абмежаваным матэрыяле". Акрамя пералічаных чытачоў, заданні, надрукаваныя 10 і 17 чэрвеня, правільна рашылі: В.Астрынскі, Л.Вітошкін, Л.Жыхар, М.Клязовіч, С.Краіла, М.Андрушчанкаў, П.Фаценюк, С.Супрунюк, Ф.Хадачынскі, У.Голуб, А.Кагоцька, П.Каролік, І.Мацкевіч, В.Дзялендзік, М.Буканаў, В.Казарэвіч, А.Сняжкоў, А.Пярхальскі, М.Падбярэзскі, А.Чумакоў, Аляксандра Камінская, І.Наўроцкі, У.Матус, У.Таратушкін, В.Краўчук, А.Белы, У.Захарчук, А.Ашыхмін, Ю.Магонаў, С.Курапатаў, Д.Блахін.

Заданні №№ 9, 10 і 11 класіфікацыйнага конкурсу-12 таксама залічаны В.Грабенку, П.Кароліку, П.Чэрнаку і А.Камінскай, а першым двум з іх налічана дадаткова па тры ачкі за прывядзенне прыватнага пабочнага рашэння ў заданні № 10 (2. ac1x). З бліцконкурсам-32 справіліся В.Грабенка і Ю.Магонаў, але прыслалі адказы са спазненнем.

Бліцконкурс-33 выйграў кандыдат у майстры спорту мінчанін Міхаіл Гельман. Ён атрымае прыз ад аўтара заданняў пінчука Аляксандра Кагоцькі — чэмпіёна краіны па шашачнай кампазіцыі.

### «Дружба-2004»

Мы ўжо паведамлялі аб выніках трэцяга рэспубліканскага турніру "Дружба".

— У спаборніцтвах прынялі ўдзел 45 шашыстаў, адзін з якіх Уладзімір Неміловіч прадстаўляў Украіну, — дадае арбітр ФМЖД Аляксандр Аніська са Слоніма. — Яны сталі магчымымі не толькі дзякуючы фінансавай падтрымцы прадпрымальніка Яўгена Бірукова (фірма "Ростра"). Непасрэдна арганізоўвалі турнір стаўбцоўскія шашысты Казімір Лаўрыновіч і Леанід Рачыцкі.

### З нізкі кампазіцый

Ужо 31 чытач выступіў у гэтым раздзеле. Сёння пазнаёмцеся яшчэ з некалькімі творамі нашых аўтараў:

**1** (Уладзімір Мазанік, Мінск). **Белыя:** a5, b6, g1, g5, h6 (5).

**Чорная:** b2, d6, e3, h8 (4).

**2** (Аляксандр Ляхоўскі, Жодзіна). **Белыя:** a1, b2, d2, d6, e1, g3, h6 (7).

**Чорныя:** a7, b4, b6, d8, f2, f8, g7, h4 (8).

**3** (Міхаіл Стэфановіч, Гродна). **Белыя:** b6, c3, c5, c7, d2, g3, h6 (7).

**Чорныя:** a3, d8, e5, f4, f8, g7, h2, h4 (8).

**4** (Аляксандр Перавознікаў, Рагачоў). **Белыя:** c1, g1, h2, h4, h6 (5).

**Чорныя:** e3, f2, f4, f6, g3 (5).

Ва ўсіх канцоўках першы ход белых і іх перамога.

**5** (Уладзімір Сапяжынскі, Рагачоў). **Белыя:** дамкі a3, a5, b2, b8, c1, f6, h6, простыя d2, d4, g1, g7 (11).

**Чорныя:** a7, h2, h4, h8 (4).

Замкнуць дамку і дзве простыя: de3 (g3 A) b6, d6, ef4, c3, cd2/f2, f2/cd2, e5, he3, e1#. A (b6) c7, cd6/dc5, d4-c5/cd6, ab4 (c5 B) dc7, f2, a5, fg5, g3, ce3, c3, c1#. Варыянт B (a5) развяжыце самастойна.

Усе пяць кампазіцый адначасова з'яўляюцца заданнямі бліцконкурсу-35. На іх рашэнне даецца 10 дзён. Пераможцу чакае прыз кандыдата ў майстры спорту У.Сапяжынскага — кніга грасмайстра В.Гарадзецкага "Рамантыка шашак" (Мінск, "Беларусь", 1970 г.).

### Яшчэ адна рубрыка

Рубрыка "Шашкі" пастаянна выходзіць у газетах "Звязда", "Советская Белоруссия", "Рэспубліка", "Белорусская нива", "Спортивная панорама", "Транспортный вестник", "Мінская праўда", у часопісе "Пралеска".

Як расказаў нам па тэлефоне Анатоль Пярхальскі, з'яўляецца яна і на старонках "Весніка Глыбоччыны". Вядзе яе пад назвай "Шашачны аддзел" кандыдат у майстры спорту А.Бацяноўскі, дапамагае яму журналіст А.Садовіч.

**Мікалай ГРУШЭЎСКІ,**
**майстар спорту.**

ШАХМАТЫ

## Из творчества читателей

**А.Сыманович (Лида)**

**Белые:** Kpf7, Фc2, Лb4, Лg4, Ca1, Ce6, пп.d2, h4 (8).

**Черные:** Kpd8, пп.a5, b5, c3, c4, c5, c7, g5 (8).

**Мат в 2 хода.**

**В.Жилко (Лунинец)**

**Белые:** Kpf1, Лc1, Лd8 (3).

**Черные:** Kpd3, пп.d4, d5 (3).

**Мат в 4 хода.**

Предлагаем вниманию любителей шахматной композиции две задачи, которые прислали наши читатели Александр Сыманович из Лиды и Вадим Жилко из Лунинца. Попробуйте найти их решение. Свои ответы присылайте по адресу: **220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты "Народная воля", "Шахматы".**

## Турнирный калейдоскоп

### Празднику посвящен

В честь Международного дня шахмат в Минске в Центре олимпийской подготовки по шахматам и шашкам прошел темпотурнир, который вызвал большой интерес любителей древней игры. В соревнованиях, проводившихся по швейцарской системе в 9 туров, приняли участие 68 спортсменов. На обдумывание ходов соперникам отводилось по 15 минут на партию. Среди участников были известные шахматисты: международный гроссмейстер Генриетта Лагвилава, международные мастера и мастера спорта Эдуард Колесник, Валерий Смирнов, Анна Шаревич, Игорь Раткович, 34 кандидата в мастера. Турнир проходил в острой борьбе. Никому из участников не удалось пройти всю дистанцию без поражений. В конечном итоге лучший результат показал минчанин мастер спорта Игорь Раткович. С результатом 7,5 очка из 9 возможных он завоевал первый приз. Всего на пол-очка от победителя отстали три спортсмена. По дополнительным показателям второе место было присуждено кандидату в мастера Михаилу Куценкову, третье — кандидату в мастера Денису Трифонову. Следует отметить отличное выступление брестчанки Анны Шаревич, которая также набрала 7 очков и лишь по коэффициенту осталась на четвертом месте. По 6,5 очка набрали Андрей Горовец (Витебск), международный мастер Валерий Смирнов, гроссмейстер Генриетта Лагвилава и юный кандидат в мастера Манвел Погосян (все из Минска). Успешно выступили в турнире также международный мастер Эдуард Колесник, кандидаты в мастера Геннадий Рабченок, Константин Юрашкевич, Павел Ломако, Николай Алявдин и 14-летний Кирилл Ступак — все они набрали по 6 очков.

Из ветеранов лучший результат показал кандидат в мастера Леонид Денскевич — 5 очков из 9.

### Мемориал Г.Вересова

В Минске прошел традиционный турнир памяти известного белорусского шахматиста международного мастера Гавриила Николаевича Вересова. В соревнованиях, проводившихся по швейцарской системе в 9 туров, приняли участие 120 шахматистов. Среди участников были минчане, международные мастера Владимир Литвинов, Никита Майоров, мастера спорта Игорь Раткович, Надежда Поливода, Татьяна Мартынюк из Бреста. Большой интерес вызвало выступление воспитанницы ДЮСШ-11 13-летней Елены Таировой, сейчас живущей в Рязани. Отлично провел турнир минский студент Никита Майоров. В 9 встречах он набрал 8 очков, не потерпев ни единого поражения. На очко от победителя отстали Денис Трифонов — второе место, Елена Таирова — третье место — блестящее достижение талантливой юной спортсменки, Игорь Раткович и Михаил Константинов.

### Международный фестиваль в Витебске

В дни проведения фестиваля "Славянский базар в Витебске" состоялся международный шахматный фестиваль. Турнир собрал сильный состав участников. В борьбе за призовые места участвовали международные гроссмейстеры Сергей Азаров (Минск), Андрей Ковалев (Витебск), Алексей Ильюшин, Геннадий Туник (Саратов), международные мастера и мастера спорта Игорь Люцко, братья Андрей и Сергей Жигалко, Игорь Раткович, Никита Майоров, неоднократная чемпионка Беларуси гроссмейстер Раиса Эйдельсон (Беларусь), Александр Носенко (Украина), сильнейшие кандидаты в мастера.

Турнир прошел в очень острой спортивной борьбе, чему немало способствовал солидный призовой фонд — 1 приз составил 1000 долларов. Его удачным финишем сумел завершить Алексей Ильюшин, набравший 6,5 очка. Такой же результат показал минчанин Сергей Азаров, но по коэффициенту он остался на второй позиции. По 6 очков набрали международный мастер из Чернигова Александр Носенко, гроссмейстер Андрей Ковалев и международный мастер Андрей Жигалко.

Приводим одну из партий, сыгранную на фестивале. Андрей Ковалев, пожертвовав два качества, сумел одержать красивую победу над Н.Майоровым.

**А.Ковалев—Н.Майоров**
**Итальянская партия**

1.e4 e5 2.Kf3 Kc6 3.Cc4 Cc5 4.c3 Kf6 5.d3 a6 6.o-o Ca7 7.Cb3 d6 8.Ce3 C:e3 9.fe o-o 10.Kbd2 Ke7 11.Kh4 c6 12.Л:f6! Позиционная жертва качества, в результате которой ослабляется прикрытие черного короля, что позволяет белым успешно развернуть атакующие действия. 12...gf 13.Фh5 Ce6 14.Лf1 C:b3 15.ab f5. Черные возвращают пешку, стремясь несколько расширить пространство для защиты короля. 16.ef f6 17.Лf3 Лf7 18.Ke4 Kd5 19.c4 Kc7 20.Фh6 Ke8. Подтягивая коня для защиты, но это уже не выручает черных. 21.Лg3+ Kg7 22.Л:g7+! Л:g7 23.K:f6+ Kpf7 24.K:h7. Угрожает 25.Фe6x! 24...Kpg8 25.Kf6+ Kpf7 26.Ke4. Белые кони намного превосходят в силе неуклюжие черные ладьи. 26...Kpg8 27.f6 Лh7 28.Фg6+ Kph8 29.Фg5 d5. Это быстро проигрывает, но защиты все равно уже нет. 30.Kg6+ Kpg8 31.K:e5+ Kph8 32.cd cd 33.Kg6+ Kpg8 34.Ke7+ Kph8 35.Фe5. (Грозит 36.f7+ Лg7 37.Kg6+ Kph7 38.Фh5x.) 35...Фb6 39.Kg5. Черные сдались.

НАВЕЛА

# Павер, ты самая харошая...

Лена падышла да свайго стала і здзівілася: у невялічкай вазе стаяла кветка півоні. На ружовых, як дзявочыя губы, пялёстках блішчалі кропелькі расы. Да вазы была прыхілена запіска. Нехта вялікімі літарамі надрукаваў на лістку: "Павер, ты самая харошая..."

— Ого! — усклікнула Алачка Якуніна, якая ўвайшла ў кабінет следам за Ленай і разам з ёй прачытала запіску. — Нехта так арыгінальна прызнаецца табе ў каханні.

Шчокі Лены сталі ружавейшыя за півоню, а вочы не маглі адарвацца ад чароўнай кветкі.

— Ды ўжо ж не так сабе гэта, — зашчабяталі дзяўчаты з усіх куткоў кабінета. Тут стаяла сем сталоў, і за кожным сядзела прынцэса. Лена была самая старэйшая: у пачатку вясны ёй споўнілася трыццаць пяць. Яна была незамужняя, жыла адна ў двухпакаёвай кааператыўнай кватэры. Жыла адзінока і сумна. Даўно перастала звяртаць увагу на сваю знешнасць. Апраналася абы-як. Цьмяныя, без бляску валасы, сашпільвала на патыліцы вялікай заколкай. Яна ўжо забылася, калі ў апошні раз была ў цырульні. Са студэнцкіх гадоў ёй ніхто не дарыў кветак.

...У душы пасялілася прадчуванне шчасця. Што б ні рабіла, куды б ні ішла, памятала пра кветку. І радавалася, і хвалявалася. А вечарам, прыйшоўшы дадому, стала ля трумо і нібы ўпершыню ўбачыла ў люстэрку і цьмяныя, нібы попелам прысыпаныя валасы, і стары касцюм, які насіла ўжо на працягу некалькіх гадоў і якому пара было на звалку.

— Шэрая, як цвіль, — падумала з горыччу.

Вечарам яна перавярнула ўвесь свой гардэроб, але нічога вартага ўвагі так і не знайшла.

— Божа, як я жыву? — здзівілася і жахнулася сама з сябе. — Ні адной рэчы, у якой можна было б выйсці ў людзі. Добра, што заўтра субота. Паеду на рынак, абмяняю долары, якія купіла на чорны дзень, і апрануся з густам. Смех і гора... Чорны дзень. Ды ў мяне ўсе дні чорныя...

У панядзелак сяброўкі ледзь пазналі Лену. Яна купіла бэзавую сукенку, што была ёй вельмі да твару. На нагах — чорныя мадэльныя басаножкі. Нават сумка была новая, у тон сукенцы.

Цьмяны хвосцік ператварыўся ў прыгожую элегантную прычоску.

Калі ўвайшла ў кабінет, то ўсе ўбачылі, якая яна зграбная і прыгожая. І яшчэ зусім маладая.

— Трымайце мяне! — закрычала Алачка Якуніна, глянуўшы на сяброўку. — А табе зноў кветка. Толькі ўжо запіскі няма.

На стале ў вазачцы стаяў вялікі чырвоны цюльпан.

З таго часу кожную раніцу нехта прыносіў Лене кветку. Адну, але свежую і прыгожую. Мясцовыя следапыты збіліся з ног, шукаючы, хто гэты таямнічы рыцар. Яго кветкі ператварылі дзяўчыну з шэранькай Папялушкі ў прыгожую казачную прынцэсу. Вочы яе свяціліся шчасцем, усмешка не сыходзіла з мілых губ.

— Ты сама хоць здагадваешся, хто гэта? — дапытваліся ў Лены дзяўчаты.

— Не, — усміхаючыся, казала яна.

— Утойваеш, нябось, — не верылі сяброўкі.

Яна зноў усміхалася.

А праз некаторы час у абедзены перапынак да Лены падышоў інжынер з суседняга аддзела Фёдар Сакалоў і запрасіў яе ў кіно. Потым яны схадзілі ў тэатр. Потым Фёдар пачаў часта заходзіць да яе ў кабінет.

— Добрая будзе пара, — казалі дзяўчаты. — І ён у гадах, але прыгожы, салідны чалавек.

Лена нібы на крылах лятала. Учора яна паведаміла сяброўкам, што занеслі з Фёдарам заяву ў загс.

— Дык гэта ён і насіў табе кветкі! — здагадалася Алачка.

— Не ён. Я пытала.

— Тады хто? І чаму цяпер не носіць. Учора і сёння не прынесіў...

— Не ведаю, — прамовіла Лена, але ў голасе яе не было шкадавання: няхай сабе і няма кветак, затое цяпер у яе ёсць Фёдар.

Неяк у магазіне Лена сустрэла прыбіральшчыцу з іхняга аддзела цётку Кацярыну.

— Расцвіла ты ў апошні час. Як кветачка вясновая стала.

— Я замуж выходжу, цёця Каця...

— От і добра, сонейка маё. Павер, ты самая харошая...

— Дык гэта вы? — раптам здагадалася Лена. — Вы насілі мне кветкі?

— Я, галубка, я. А што ж было рабіць, калі ты такая засмучаная хадзіла, як бабулька старая. Бачыш, кветачкі мае зрабілі цуд. Цябе стала не пазнаць...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

# Не«одинокое небо» Олега Акулича

*Известный белорусский актер* ***Олег Акулич*** *снимается в Москве в новом четырехсерийном телефильме «Одинокое небо», который выйдет на экраны осенью этого года.*

Сейчас трудно представить, что в век компьютеров и мобильных телефонов, жесткой и жестокой конкуренции, олигархов и магнатов, миллионных состояний и нищенской зарплаты — еще существуют романтики. Причем романтики-голубятники, которые разводят птиц не ради наживы, а для удовольствия, из-за простой любви к ним. Тем не менее они есть, и новый четырехсерийный телефильм "Одинокое небо", который выйдет на экраны осенью этого года, как раз о таких, немного наивных, но честных и добрых людях. О голубятниках.

Сценарий прост: на краю Москвы располагается кооператив "Соломенная сторожка". Людей разных возрастов и разных профессий — пенсионеров Захарыча (**Валерий Баринов**) и Фомича (**Александр Пашутин**), фельдшера Бориса (**Андрей Мерзликин**), музыканта Веревкина (**Даниил Спиваковский**), автослесаря Серегу Подкову (**Анатолий Журавлев**), участкового Пахомыча (**Роман Мадянов**), бизнесмена Пал Палыча (**Александр Клюквин**) и поэта Костика (**Велимир Русаков**) — объединяет любовь к голубям. Все свободное время они вместе проводят на любимых голубятнях. Но кто-то богатый и сильный хочет снести "Соломенную сторожку", чтобы построить там завод. И авантюрист Затевахин (**Олег Акулич**), в прошлом тоже страстный голубятник, а теперь жадный и наглый тип, играет в этом темном деле далеко не последнюю роль, помогая таинственному дельцу, покусившемуся на участок земли. Однако сдаваться герои не собираются...

На съемочной площадке Олег активно общался с журналистами "Московского комсомольца".

*"Мой герой Затевахин все время за всеми подсматривает, вот так",* — рассказывал Акулич, залезая в кусты. Изображая подглядывающего Затевахина, Олег устроил театр одного актера, рассмешив всех, кто был рядом. От усердия он даже испачкал о траву свои светлые брюки.

В одной из сцен сериала герой Акулича должен был петь. А по сюжету он не то что петь не умеет, у него вообще слуха нет. А у белорусского артиста — абсолютный слух. То-то он намучился, когда режиссер просил его не попадать ни в одну ноту!..

**Юля МАЛИНИНА.**

**На фото:** *кадр из фильма.*

## Французам падабаецца беларуская мэбля

*У другой палове жніўня Брэсцкую мэблевую фабрыку наведаюць прадстаўнікі адной з фірм Аўстрыі. Аўстрыйцы зацікавіліся мэбляй класічнага стылю, якую вырабляе брэсцкае прадпрыемства, і зусім верагодна, што іх паездка ў Беларусь завершыцца падпісаннем дзелавога кантракта. Пра гэта БелаПАН паведаміў дырэктар фабрыкі* **Сяргей Ляўковіч.**

Дарэчы, сёння асноўная частка мэблі Брэсцкай фабрыкі адпраўляецца ў Францыю — у першую чаргу камоды і сталы.

*"Мы стабільна працуем з гандлёвымі фірмамі чатырох французскіх гарадоў, — сказаў дырэктар фабрыкі. — Французаў задавальняе іх і адносна невялікі кошт, а таксама гарманічнае спалучэнне даўніны і сучаснасці".*

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Пройдзе рок-канцэрт «Не папса»

*20 жніўня ў клубе "Рэактар" пройдзе рок-канцэрт "Не папса". Мінскі канцэрт стане адным з серыі такога кшталту мерапрыемстваў — дагэтуль "Не папса" некалькі разоў праходзіў у Расіі.*

Мэтай канцэрта, паводле заявы арганізатараў, з'яўляецца падтрымка перспектыўных беларускіх груп і "стымуляванне развіцця здаровай музыкі без бруднага гуку гітар". "Рок павінен ісці з душы, а не з гітарнай прымочкі", — патлумачыў другі пункт адзін з арганізатараў фестывалю Юрый Міхееў.

**Павел СВЯРДЛОЎ.**

## Ганараваны медалём «50 гадоў цаліны»

*15 жыхароў Гомельскай вобласці ганараваны медалём "50 гадоў цаліны". Урачысты прыём ветэранаў працы, якія ў 50-я гады ўзнімалі цаліну, адбыўся ў Гомелі.*

Дзевяць чалавек жывуць цяпер у Хойніцкім раёне, тры чалавекі — у Добрушы, астатнія — у Калінкавічах, Жлобіне і вёсцы Вітлін Рагачоўскага раёна.

Па даручэнні прэзідэнта Казахстана Нурсултана Назарбаева медалі "50 гадоў цаліны", кветкі і кнігі ветэранам працы ўручыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол гэтай краіны ў Беларусі Газіз Алдамжараў.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

## Уручана пуцёўка ў Афіны

*12-гадоваму гродзенцу Аляксандру Шасцерыкову і яго маці ўручана пуцёўка ў Афіны, дзе з 13 па 29 жніўня пройдуць XXVIII летнія Алімпійскія гульні. Малады чалавек стаў пераможцам конкурсу "Адкрый Алімпійскія гульні", арганізаванага кампаніяй "Кока-кола Беўрыджыз Беларусь" і Нацыянальным алімпійскім камітэтам. Цырымонія ўручэння пуцёўкі прайшла ў Алімпійскім прэс-цэнтры "BelSwissBank" у Мінску.*

А.Шасцерыкоў купіў паўлітровую бутэльку "Кока-колы", на ўнутраным баку крышкі якой быў надпіс "Афіны-2004". Апрача пуцёўкі ў сталіцу Алімпіяды ён атрымаў дыплом пераможцы. Школьнік паведаміў журналістам, што займаецца тэнісам і ўжо выйграў некалькі гарадскіх турніраў у сваёй узроставай катэгорыі.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

